Не забудзьцеся падпісацца на “Народную Волю”!
www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 98 (3941)
16 снежня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЛАРУСЬ—РАСІЯ

## Нясмелы адказ

Галоўны санітарны ўрач Беларусі **Ігар ГАЕЎСКі** прыпыніў абарачэнне на тэрыторыі Беларусі шэрагу прадуктаў харчавання расійскай вытворчасці. Некаторыя эксперты назвалі гэта адказам беларускага боку на дзеянні “Россельхознадзора», які апошнім часам вядзе сапраўднае наступленне на беларускія мяса ды каўбасы. Але назваць дзеянні Гаеўскага контрнаступленнем — гэта ўсё ж такі відавочнае перабольшванне.




Сярод забароненых прадуктаў — макарона хуткага прыгатавання ды “Біг Ланч” вытворчасці расійскай кампаніі “БіяФуд”. Прычына — неадпаведнасць гэтых прадуктаў беларускім санітарна-эпідэміялагічным нормам і тэхнічнаму рэгламенту Мытнага саюза паводле мікрабіялагічных паказчыкаў. Таксама прыпынена абарачэнне ў Беларусі натуральнай молатай кавы “Мока” ад расійскай кампаніі “Паўліг Рус”. Прычынай стала ўтрыманне ў прадукце афлатаксіну В1. Такім чынам, праблемы, якія галоўны санітарны ўрач Беларусі стварыў для дзвюх прыватных расійскіх кампаній, не ідуць ні ў якое параўнанне з той "харчовай вайной", якая разгарнулася паміж нашымі краінамі.

Нагадаем, што ўжо больш за тры тыдні шэраг беларускіх прадпрыемстваў мясапрацоўчай вытворчасці не маюць права пастаўляць сваю прадукцыю ў Расію, хаця высокія чыноўнікі абяцалі, што праблема вырашыцца ўжо 1 снежня. Не вырашылася. Праўда, некаторыя нашы прадпрыемствы, так бы мовіць, рэабілітаваны, ім зноў дазволены пастаўкі ў Расію (напрыклад, Гомельскаму і Жлобінскаму мясакамбінатам, а таксама Віцебскай птушкафабрыцы), аднак пастаўкі амаль з дваццаці беларускіх прадпрыемстваў па-ранейшаму застаюцца пад забаронай, іх цяпер правяраюць расійскія спецыялісты.

Дарэчы, для вырашэння пытання застаецца не так шмат часу. На нарадзе 11 снежня Аляксандр Лукашэнка адвёў на гэта беларускаму ўраду 10 дзён. Так што час сыходзіць у нядзелю.

**Алег СНОЎ.**

ДАРЭЧЫ

## Як працуюць рэвізоры?

Кіраўнік Брэсцкага аблвыканкама **Канстанцін СУМАР** расказаў, як працуюць расійскія правяраючыя ў Брэсцкай вобласці. Тут, дарэчы, пад санкцыі “Россельхознадзора” трапілі чатыры прадпрыемствы.

*«Да нас прыехалі дзевяць чалавек з Расійскай Федэрацыі, спецыялісты, трэба сказаць, тыя, якія ведаюць, што трэба правяраць,* — расказаў Канстанцін Сумар. — *Мы сустракаемся, падводзім вынікі. Расійскія эксперты былі на Брэсцкім мясакамбінаце і кажуць, што ў іх няма абсалютна ніякіх прэтэнзій у плане якіх-небудзь парушэнняў санітарных нормаў ці тэхнічных рэгламентаў. Была праверка на Бярозаўскім мясакансервавым камбінаце, там яе планавалі двое сутак праводзіць, але эксперты на працягу дня пераканаліся, што на прадпрыемстве няма праблем для працы гэтай камісіі. Ім, наадварот, спадабалася сістэма работы на нашых мясакамбінатах, асабліва па забою жывёл. Так што ў нас у вобласці няма праблем з якасцю мясаперапрацоўкі. Я думаю, што гэтая тэма ў нейкай ступені надуманая кімсьці са службы Расійскай Федэрацыі, якая і прымусіла накласці такое эмбарга на тое ці іншае прадпрыемства».*

Цікава, што і раней беларускія чыноўнікі запэўнівалі, што ўсё добра, што расіянам усё падабаецца, што ніякіх прэтэнзій няма... Аднак у выніку вунь што выйшла — сапраўдная “харчовая вайна”.

## На чарзе — бензін?

Пакуль Беларусь і Расія працягваюць высвятляць адносіны ў тым, што тычыцца якасці мясамалочнай прадукцыі і солі, на даляглядзе замаячыла яшчэ адна праблема. Чарговым каменем спатыкнення паміж Мінскам і Масквой могуць стаць беларускія нафтапрадукты, выробленыя з расійскай нафты.

Нагадаем, што ў 2015 годзе Беларусь разлічвае імпартаваць з Расіі 23 мільёны тон нафты. Разам з тым Беларусь абавязалася ў 2015 годзе паставіць у РФ 1,8 млн тон аўтамабільных бензінаў у абмен на кампенсацыю страт ад падатковага манеўру. Расія прыгразіла зрэзаць пастаўкі нафты ў Беларусь у выпадку недаатрымання паліва.

Дэвальвацыя расійскага рубля ўскладніць пастаўкі беларускага бензіну ў РФ у 2015 годзе, паведаміла агенцтву ПРАЙМ-ТАСС крыніца ў профільным ведамстве. *«Да рэзкай дэвальвацыі расійскай валюты мы не бачылі асаблівых праблем з выкананнем гэтага абавязацельства. Зараз з’явілася занепакоенасць, паколькі такія пастаўкі могуць аказацца стратнымі»,* — сказаў ён.

Паводле ацэнак, па выніках 2014 года на расійскі рынак будзе пастаўлена больш за 1,5 млн тон бензінаў беларускай вытворчасці. Паводле папярэдніх дамоўленасцяў з РФ, Беларусь павінна была паставіць у бягучым годзе на расійскі рынак каля 2,1 млн тон бензінаў.

Паводле двухбаковых дамоўленасцяў, у 2015 годзе профільныя ведамствы Беларусі і Расіі кожныя тры месяцы (да 15-га чысла месяца, які папярэднічае кварталу) будуць спраўджваць выкананне графіка паставак беларускага паліва на расійскі рынак. Масква можа перагледзець аб’ёмы паставак нафты ў Беларусь, калі аб’ёмы недапастаўкі беларускага бензіну ў РФ будуць перавышаць 10% ад зацверджанага квартальнага графіка.

Тым часам жыхары памежных тэрыторый Беларусі ўжо едуць у Расію за бензінам і дызельным палівам, якія патаннелі з-за рэзкай дэвальвацыі расійскага рубля.

БЕЗ РЭТУШЫ



*Валерый КАРБАЛЕВІЧ*

## Мінск паскардзіўся Еўропе на Расію

**Мяркуючы па ўсім, у беларуска-расійскіх дачыненнях наспеў чарговы крызіс, завязаўся новы канфліктны вузел. Прычым у самы апошні час.**

**Яшчэ 18 лістапада, прымаючы міністра замежных спраў Расіі Сяргея Лаўрова, Аляксандр Лукашэнка казаў: «Мы пачынаем новы год, у прынцыпе, без праблем у нашых адносінах, нават дробных. Мы дамовіліся па ўсіх пытаннях».**

**Падаецца, тая лёгкая эйфарыя ў Лукашэнкі ад дачыненняў з Масквой была абумоўлена нядаўнім рашэннем Крамля пакінуць наступным годам усе мытныя пошліны за нафтапрадукты ў беларускім бюджэце. Думаю, тая шчодрасць Расійскай Федэрацыі была нечаканай для самога кіраўніцтва Беларусі. Дастаткова было лёгкага шантажу, пагрозы не ратыфікаваць дамову аб стварэнні ЕАЭС, каб Масква саступіла і шырокім жэстам падарыла саюзніку каля 1 мільярда долараў.**

**Але літаральна праз тыдзень пасля сустрэчы Лукашэнкі з Лаўровым грымнула “харчовая вайна”. Яна цягнулася тры тыдні. За гэты час кіраўнік Беларусі правёў дзве адмысловыя нарады з вышэйшым кіраўніцтвам краіны з нагоды харчовага канфлікту. На згаданых нарадах, а таксама падчас сустрэч Аляксандра Лукашэнкі з губернатарам Санкт-Пецярбурга Георгіем Палтаўчанкам, з дзяржсакратаром Саюзнай дзяржавы Рыгорам Рапотам прэзідэнт Беларусі абрынуўся на Расію з жорсткай крытыкай, якой даўно не чулі.**

**Здавалася б, у чым праблема: здымі слухаўку, патэлефануй Пуціну і вырашы ўсе праблемы. Але пра тэлефонныя перамовы двух прэзідэнтаў ніякай інфармацыі няма. Магчыма, такія размовы і былі. Але пра іх паведамляюць, мусіць, толькі тады, калі трэба пахваліцца поспехам. А тут хваліцца не было чым.**

**Была яшчэ дзіўная заява таго ж Сяргея Лаўрова, што Беларусь і Казахстан могуць далучыцца да расійскага эмбарга на імпарт прадуктаў харчавання з заходніх краін. Дзіўная таму, што ні Мінск, ні Астана не выказваюць ніякага жадання ўдзельнічаць у канфлікце Расіі з усім светам. Ці гэта чарговая неадэкватнасць расійскай замежнай палітыкі, чаго апошнім годам было нямала, ці водгук нейкіх закулісных перамоў, падчас якіх РФ цісне на саюзнікаў, патрабуючы ад іх салідарнасці з Масквой?**

**Ці вось яшчэ адна канфліктная кропка. Падчас сустрэчы прэзідэнта Беларусі з дзяржсакратаром Саюзнай дзяржавы Рыгорам Рапотам Лукашэнка запратэставаў супраць таго, каб пасяджэнне вышэйшага дзяржсавета Саюзнай дзяржавы адбылося ў адзін дзень з самітам АДКБ і ЕАЭС. Лукашэнка не хоча «*ў фармалізм ператвараць наша мерапрыемства*». Але калі няма праблем, то якая розніца, наколькі працяглая сустрэча. Сэнс у правядзенні сур’ёзных і нефармальных перамоў з’яўляецца толькі тады, калі ёсць праблемы ў адносінах.**

**Упершыню пасля 19 снежня 2010 года афіцыйны Мінск спрабуе так дэманстратыўна гуляць на супярэчнасцях паміж Расіяй і ЕС.**

**І самы дзіўны факт. 11 снежня ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі адбылася сустрэча з кіраўнікамі дыпламатычных місій краін ЕС. У афіцыйным паведамленні беларускага знешнепалітычнага ведамства адзначаецца: «Падчас размовы адбыўся абмен думкамі па праблемных пытаннях у адносінах Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі, а таксама па пытаннях развіцця еўразійскіх інтэграцыйных працэсаў. У гэтым кантэксце была адзначана важнасць дыялогу і супрацоўніцтва паміж Беларуссю і ЕС».**

**У згаданым паведамленні — аж тры дзіўныя рэчы. Першая нечаканасць палягае ў самім факце такой сустрэчы ў момант няскончанай “харчовай вайны” з Расіяй.**

**Другая дзіва — парадак дня абмеркаваных пытанняў. Аказваецца, МЗС запрасіў еўрапейскіх амбасадараў, каб абмеркаваць з імі праблемы ў беларуска-расійскіх адносінах (!). Вось дык нагода! Атрымліваецца, што Мінск паскардзіўся еўрапейскім дыпламатам на Расію. І менавіта «ў гэтым кантэксце была адзначана важнасць дыялогу і супрацоўніцтва паміж Беларуссю і ЕС».**

**Трэцяя нечаканка: пра гэтую сустрэчу МЗС старанна і актыўна распаўсюдзіў інфармацыю. Каб усе ведалі.**

**Здавалася б, гэтага дастаткова, каб у Маскве зразумелі сігнал і задумаліся. Але, мусіць, у беларускім МЗС палічылі, што на Смаленскай плошчы (там размешчана МЗС РФ) ці ў Крамлі людзі не вельмі дасведчаныя і ўважлівыя. Таму для самых няўважлівых беларускае Міністэрства замежных спраў дадало яшчэ адну інфармацыю:**

**«Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей таксама правёў тэлефонныя размовы з шэрагам сваіх калег з краін ЕС і абмеркаваў з імі развіццё сітуацыі ў рэгіёне і беларуска-еўрапейскія адносіны».**

**Упершыню пасля 19 снежня 2010 года афіцыйны Мінск спрабуе так дэманстратыўна гуляць на супярэчнасцях паміж Расіяй і ЕС. Маскве паказваюць: калі яна не пойдзе на саступкі, то Беларусь паверне ў бок Еўропы. Калі гэты трэнд захаваецца, то, можа, і палітвязняў пачнуць вызваляць?**

ПАРАЎНАЕМ

### Сярэдняя пенсія ў краінах СНД, у доларах

(Крыніца: Нацыянальны статыстычны камітэт Рэспублікі Беларусь)



| | |
|---|---|
| Расія | 306,7 |
| **Беларусь** | 232,1 |
| Казахстан | 217,1 |
| Кыргызстан | 131,7 |
| Малдова | 78,2 |
| Арменія | 71,8 |
| Таджыкістан | 47,8 |

### Сярэдняя пенсія ў краінах ЕС, у доларах

(Крыніца: інтэрнэт-СМІ)



| | |
|---|---|
| Нарвегія | 2400 |
| Італія | 1612 |
| Нідэрланды | 1600 |
| Швецыя | 1560 |
| Фінляндыя | 1530 |
| Аўстрыя | 1460 |
| Вялікабрытанія | 1359 |
| Германія | 1200 |
| Іспанія | 900 |
| Чэхія | 565 |
| Польшча | 550 |
| Эстонія | 470 |
| Латвія | 372 |
| Літва | 318 |

ЭКАНОМІКА

## Заробак меншы за 500 долараў

У кастрычніку заробак амаль у 40% работнікаў, якія ўлічваюцца афіцыйнай статыстыкай (сюды не адносяцца малыя арганізацыі з колькасцю работнікаў да 15 чалавек і індывідуальныя прадпрымальнікі), складаў менш за пяць мільёнаў рублёў.

У кастрычніку ў такіх арганізацыях працавала 3,2 млн чалавек. Зарплата больш як 1,2 млн чалавек склала менш за 5 млн рублёў (менш за 500 долараў ЗША).

Варта адзначыць, што сярэдні заробак работнікаў у апошнія месяцы практычна не змяняўся. У жніўні ён складаў 6.360.000 рублёў, у верасні — 6.340.000, у кастрычніку — 6.380.000 рублёў.

КАДРЫ

## Хто ёсць хто...

*Учора Аляксандр Лукашэнка разгледзеў кадравыя пытанні і* прызначыў:

**Жылінскага Марата Генадзьевіча** — рэктарам Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь;

**Галя Андрэя Вадзімавіча** — кіраўніком дзяржаўнай установы «Адміністрацыя Беларуска-Кітайскага індустрыяльнага парку» Індустрыяльны парк «Вялікі камень»;

**Рэута Вячаслава Генадзьевіча** — дырэктарам Дэпартамента фінансавага маніторынгу Камітэта дзяржаўнага кантролю;

**Дземчука Мікалая Мікалаевіча** — Пастаянным паўнамоцным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры статутных і іншых органах Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

А.Лукашэнка таксама даў згоду на прызначэнне шэрагу кіраўнікоў раённых адміністрацый, а таксама:

**Лапцева Віктара Сяргеевіча** — намеснікам старшыні Мінскага гарвыканкама;

**Дземідзенку Уладзіміра Уладзіміравіча** — генеральным дырэктарам ААТ «Магілёўскі завод «Строммашына»;

**Барадзіна Алега Ігаравіча** — генеральным дырэктарам дзяржаўнага навукова-вытворчага аб’яднання «Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па біярэсурсах»;

**Луцкага Ігара Уладзіміравіча** — першым намеснікам міністра інфармацыі;

**Ермаловіча Максіма Леанідавіча** — першым намеснікам міністра фінансаў;

**Лапко Дзмітрыя Мікалаевіча** — намеснікам старшыні Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь;

**Далгаполавай Вольгі Іванаўны** — генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Мілане (Італьянская Рэспубліка);

**Клімава Уладзіміра Васільевіча** — генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе (Латвійская Рэспубліка);

**Захарчука Уладзіміра Андрэевіча** — членам Гомельскага аблвыканкама;

**Кухаўца Мікалая Мікалаевіча** — членам Мінскага аблвыканкама;

**Афанасьева Аляксея Віктаравіча** — членам Мінскага гарвыканкама.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Пракурор запатрабаваў для Уладзіміра Мальцава 6 год калоніі ўзмоцненага рэжыму

*Максімальнае пакаранне па артыкуле, па якім судзяць былога гендырэктара “Барысаўдрэва”, — 10 гадоў пазбаўлення волі.*

У Мінскім абласным судзе завяршылася судовае следства па справе былога гендырэктара “Барысаўдрэва” Уладзіміра Мальцава і пачаліся спрэчкі бакоў. Гэтая справа даўно стала не толькі гучнай, але і самай парадаксальнай амаль што за ўсю гісторыю суверэннай Беларусі. Уладзімір Мальцаў не краў, не браў хабару, працаваў практычна без выхадных і пад пільным вокам разнастайных правяраючых з кантралюючых арганізацый і ведамстваў, а яго абвінавачваюць у злоўжываннях уладай альбо службовым становішчам з нанясеннем асабліва вялікіх страт — 17 млрд рублёў. 10 месяцаў Мальцаў знаходзіцца пад вартай у ізалятары часовага ўтрымання на Валадарскага.

Суд над былым кіраўніком “Барысаўдрэва” распачаўся ў верасні. Але сама гэтая гісторыя “стартавала” яшчэ 8 лістапада 2013 года, калі Аляксандр Лукашэнка наведваў прадпрыемства і быў абураны сарванымі тэмпамі мадэрнізацыі. Тады Лукашэнка вызваліў ад пасады старшыню Мінаблвыканкама Барыса Батуру, намесніка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Андрэя Тура і старшыню канцэрна «Беллеспаперапрам» Аляксандра Пераслаўцава. Кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта Андрэю Кабякову была аб’яўлена строгая вымова, а першаму віцэ-прэм’еру Уладзіміру Сямашку Лукашэнка прыгразіў крымінальным артыкулам. Аднак узяты пад варту быў толькі гендырэктар “Барысаўдрэва” Уладзімір Мальцаў. Сямашку, праўда, называлі галоўным сведкам па гэтай справе, таму што ён курыраваў мадэрнізацыю дрэваапрацоўчай галіны, чакалася, што Сямашка дасць паказанні ў судзе, аднак дапытаны ён так і не быў...

Мальцаў вінаватым сябе не прызнаў. У апошнім слове ён нават не прасіў суддзю аб літасці, сцвярджаў, што з дзяцінства жыў па прынцыпе “не скрадзі”. Дарэчы, калі ўчора пракурор Алена Філіповіч агучыла, якое пакаранне патрабуе дзяржабвінавачанне для Мальцава, то ў звароце да суда не згадала пра ўрон у 17 млрд рублёў і не патрабавала прымяніць у дачыненні да падсуднага канфіскацыю маёмасці.



Дарэчы, у гісторыі беларускага правасуддзя былі выпадкі, калі дзяржабвінавачанне па гучных спарвах патрабавала для падсуднага немалыя тэрміны зняволення, а суд выносіў значна больш мяккі прысуд. Напрыклад, у 2008 годзе пракурор прасіў асудзіць вядомага кардыёхірурга Аляксандра Шкета на 7 гадоў калоніі за хабар, злоўжыванне службовым становішчам і г.д., але медыку прысудзілі 3 гады абмежавання волі, і кардыёхірург працягваў аперыраваць людзей... Як будзе гэтым разам, даведаемся 20 снежня — на гэты дзень запланавана агалашэнне прысуду па справе Уладзіміра Мальцава.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

КАНФЛІКТ

## Ці ўратуе сітуацыю прыпыненне работы гіпермаркетаў?

Учора зусім нечаканай навіной з’явілася паведамленне Міністэрства гандлю аб прыпыненні працы адразу трох сталічных гіпермаркетаў “Гиппо”, два з якіх знаходзяцца ў сталіцы на вуліцах Жукоўскага і Чарвякова, а трэці — у вёсцы Баравая пад Мінскам. Літаральна за пару дзён да гэтага тым жа ведамствам было абвешчана пра прыпыненне працы сямі супермаркетаў папулярных сетак “Электрасіла” і “5 элемент” у Мінску, Пінску, Маладзечне, Мазыры, Гомелі, Ваўкавыску, Слоніме, іншых гарадах Беларусі. Прымусова зачыняць папулярныя крамы ды яшчэ ў перыяд святочных распродажаў — гэта, пагадзіцеся, нешта новенькае ў нашай рэчаіснасці.

Фармальнай падставай для такога рашэння стала парушэнне ўказа прэзідэнта №567 ад 5 снежня 2014 года: на паліцах крам, якія трапілі ў “чорныя спісы”, было менш за 25% тавараў айчыннай вытворчасці і наяўнасць тавараў са скончаным тэрмінам прыдатнасці.

Пры гэтым Міністэрства гандлю паведаміла, што з 27 правераных магазінаў бытавой тэхнікі парушэнні зафіксавалі... у кожным! Акрамя таго, чыноўнікі сцвярджаюць, што мелі месца факты падману спажыўцоў, невыкананне асартыментных пералікаў, рэалізацыі тавараў са скончаным тэрмінам прыдатнасці. Да таго ж не на ўсіх таварах былі цэннікі, бракавала інфармацыі пра тавары на беларускай ці рускай мове, не на ўсіх было напісана пра краіну вытворчасці, часам не было анатацый з асноўнымі тэхнічнымі характарыстыкамі.

У Мінгандлю заявілі, што ў Беларусь за 9 месяцаў 2014 было ўвезена імпартных тэлевізараў, пральных машын, халадзільнікаў і маразільнікаў на агульную суму 145 з паловай мільёнаў долараў, у тым ліку 93,7% — з Расійскай Федэрацыі. У магазінаў, якім прад’яўлены прэтэнзіі, расійскі ўладальнік. І застаецца толькі здагадвацца, ці можна лічыць усё гэта простым супадзеннем...

Як бы там ні было, але магазін “Гиппо” на вуліцы Жукоўскага ўчора пасля абеду працаваў. Праўда, ветлівы кіраўнік аховы паведаміў, што нічога толкам ніхто не ведае: загадчыца яшчэ ў 11 гадзін паехала ў Міністэрства гандлю і пакуль адтуль не вярнулася.

Не былі зачынены ўчора і гіпермаркеты па вуліцы Чарвякова і ў вёсцы Баравая. Хаця паведамленне аб прыпыненні іх работы ніхто не скасоўваў.

Пад вечар стала вядома, што ўсім тром супермаркетам у Міністэрстве гандлю ўручылі прадпісанне аб прыпыненні работы з сённяшняга дня, 16 снежня.

**Любоў ЛУНЁВА.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

## Не загоняем ли себя в ловушку?

Как известно, демократическая общественность страны решила провести Всебелорусский конгресс за независимость. Вопрос этот встал на повестке дня неслучайно. В очередной раз над нашей Родиной нависла угроза потери суверенитета. В определенной мере она может исходить и из ряда договоров, которые заключили власти Беларуси в последние годы.

29 мая 2014 года в столице Казахстана Астане состоялось подписание Договора о Евразийском экономическом союзе. 9 октября того же года депутаты Палаты представителей и члены Совета Республики Национального собрания Республики Беларусь ратифицировали Договор. В тот же день А.Г.Лукашенко подписал соответствующий закон о ратификации. С 1 января 2015 года Договор вступит в силу, и Беларусь окажется в едином экономическом пространстве с Россией и Казахстаном.

К каким последствиям может привести новый «союз»? Не станет ли он угрозой суверенитету нашей страны?

***



Согласно статье 1 Договора, Евразийский экономический союз (далее — Союз) является «международной организацией региональной экономической интеграции, обладающей международной правосубъектностью». Свою деятельность Союз основывает на уважении общепризнанных принципов международного права, включая принципы суверенного равенства государств-членов и их территориальной целостности.

В качестве основных целей союза провозглашены: создание условий для стабильного развития экономик государств-членов в интересах повышения жизненного уровня их населения; стремление к формированию единого рынка товаров, услуг, капитала и трудовых ресурсов в рамках Союза; всесторонняя модернизация, кооперация и повышение конкурентоспособности национальных экономик в условиях глобальной экономики (ст.4).

Органами Союза являются: Высший Евразийский экономический совет; Евразийский межправительственный совет; Евразийская экономическая комиссия; Суд Евразийского экономического союза (ст.8).

Председательство в Высшем совете, Межправительственном совете, Комиссии ЕЭС будет осуществляться на ротационной основе в порядке русского алфавита одним из государств-членов в течение календарного года.

Высший совет в составе глав государств-членов имеет широкие полномочия. Он, в частности, принимает решения, направленные на реализацию целей Союза; утверждает состав Коллегии Комиссии ЕЭС; назначает судей Суда Союза; утверждает Регламент работы Евразийской экономической комиссии; утверждает бюджет Союза и отчет о его исполнении; определяет размеры долевых взносов государств-членов в бюджет Союза.

Решения Высшего совета принимаются консенсусом. Кроме одного случая: о прекращении членства государства в Союзе. Решение по этому вопросу принимается по принципу «консенсус минус голос государства-члена, уведомившего о своем намерении прекратить свое членство в Союзе» (ч.2 ст.13 Договора).

При оценке конституционности норм Договора следует исходить из международных правовых актов, ратифицированных Республикой Беларусь, Декларации «О государственном суверенитете Республики Беларусь» от 27 июля 1990 г. (в редакции конституционного закона от 25 августа 1991 г.), Конституции Республики Беларусь, а также национальных интересов Республики Беларусь как суверенного демократического правового государства.

*(Продолжение на стр. 2.)*

ЛІЧБА ДНЯ

# 111 тысяч 900 рублёў

Менавіта такую дапамогу атрымліваюць сёння беспрацоўныя ў Мінску. А на канец лістапада ў сталіцы было зарэгістравана 5487 беспрацоўных.

ВАКАНСІІ

## *Мінскім медустановам не хапае 821 медсястры*

Спіс найбольш запатрабаваных у Мінску спецыялістаў выглядае так:

| | |
|---|---|
| медсёстры **(821 вакансія)**, | вадзіцелі аўтамабіляў **(333)**, |
| рабочы па комплекснай уборцы **(595)**, | муляры **(330)**, |
| інжынеры **(408)**, | урачы-спецыялісты **(298)**, |
| прадаўцы **(376)**, | кантралёры-касіры **(227)**, |
| | электраманцёры **(232)**. |

ФОТАФАКТ



**У Магілёве прайшлі спаборніцтвы па стральбе з табельнай зброі сярод кіраўнікоў тэрытарыяльных дзяржаўных органаў — членаў БФСТ «Дынама». Удзел у іх прынялі 13 каманд — агулам каля 40 чалавек. Кіраўнік аблвыканкама Пётр РУДНІК таксама ўзяў у рукі зброю. Праўда, ніякіх прызоў сабе не падстрэліў.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

# Не загоняем ли себя в ловушку?

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Согласно Уставу ООН, подписанному 26 июня 1945 г. 50 государствами, в том числе Белорусской ССР, одной из целей ООН является развитие отношений между нациями на основе уважения принципа равноправия и самоопределения народов.

Право народов на самоопределение закрепляется в Международном пакте о гражданских и политических правах, ратифицированном Белорусской ССР, а затем и Республикой Беларусь. В силу этого права ***народ свободно устанавливает свой политический статус и свободно обеспечивает свое экономическое, социальное и культурное развитие (ст.1).***

В соответствии с Декларацией о государственном суверенитете ***«Республика Беларусь — суверенное государство, утвердившееся на основе осуществления белорусской нацией ее неотъемлемого права на самоопределение, государственности белорусского языка, верховенства народа в определении своей судьбы» (ст.1).***

В преамбуле Конституции записано: ***«Мы, народ Республики Беларусь (Беларуси), исходя из ответственности за настоящее и будущее Беларуси, сознавая себя полноправным субъектом мирового сообщества и подтверждая свою приверженность общечеловеческим ценностям, основываясь на своем неотъемлемом праве на самоопределение…».***

Как отмечается в Конституции, Республика Беларусь обладает верховенством и полнотой власти на своей территории, самостоятельно осуществляет внутреннюю и внешнюю политику.

Конституция провозглашает народ единственным источником государственной власти и носителем суверенитета в Республике Беларусь. Свою власть народ может осуществлять непосредственно и через представительные органы в формах и пределах, определенных Конституцией.

Конституция Республики Беларусь признает приоритет общепризнанных принципов международного права и обеспечивает соответствие им законодательства. При этом не допускается заключение международных договоров, которые противоречат Конституции.

К общепризнанным принципам международного права среди прочих относится и принцип суверенного равенства государств, в соответствии с которым территориальная целостность и политическая независимость государства неприкосновенны.

Следует также учесть положения Акта о независимости Беларуси, принятого делегатами Всебелорусского съезда 29 июля 2000 года. В нем подчеркивается, что ***“незалежнасць Беларусі з’яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум”.***

С учетом изложенного полагаю, что некоторые положения Договора вступают в противоречие с общепризнанными нормами международного права, нормами Декларации о государственном суверенитете и Конституции Республики Беларусь и тем самым угрожают суверенитету белорусского государства и народа.

Так, согласно части второй статьи 13 Договора, государство может выйти из состава Союза только с согласия других государств-членов. Это означает, что не предполагается возможности свободного выхода из Союза. Данное положение вступает в противоречие с правом белорусского государства самостоятельно осуществлять свою внутреннюю и внешнюю политику (ст.1 Конституции). Кроме того, эта норма нарушает статью 11 Декларации о государственном суверенитете, согласно которой «***Республика Беларусь самостоятельно осуществляет права на добровольные союзы с другими государствами и свободный выход из этих союзов».***

Политика углубленной интеграции государств-членов, формирование единого рынка товаров, услуг, капитала и трудовых ресурсов в рамках Союза неизбежно приведут к установлению экономической и иной зависимости белорусской экономики от более сильных и развитых государств-членов. Намечаемое в перспективе введение единой денежной единицы противоречит норме Конституции о проведении на территории Республики Беларусь единой бюджетно-финансовой, налоговой, денежно-кредитной, валютной политики.

В случае признания Договора неконституционным (целиком или в соответствующей части) он не будет иметь юридической силы с момента подписания, то есть с 29 мая 2014 года. Такого рода договоры должны заключаться с одобрения белорусского народа как единственного источника государственной власти и носителя суверенитета Республики Беларусь.

**Михаил ПАСТУХОВ,
доктор юридических наук,
профессор,
судья Конституционного суда
первого состава,
заслуженный юрист
Республики Беларусь.**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## *Дагуляліся*

Беларускі дэсант футбольных балельшчыкаў застаецца ў італьянскай турме. Прычым надоўга. Разгляд спраў арыштаваных 11 снежня фанатаў футбольнага клуба «Дынама» (Мінск) адбудзецца толькі 15 чэрвеня 2015 года. Пра гэта паведаміла беларускае Міністэрства замежных спраў на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы «Твітар».

*«Правамернасць арышту заўзятараў органамі правапарадку 11 снежня суд пацвердзіў, але з прычыны адсутнасці сацыяльнай небяспекі яны вызвалены... Як паведаміў супрацоўнік амбасады з залы суда, беларускія заўзятары могуць пакінуць тэрыторыю Італіі... Абвінавачванне настойвае на наяўнасці доказаў правапарушэння, новае судовае пасяджэнне прызначана на 15.06.2015»,* — патлумачылі ў МЗС.

Супрацоўнік консульскага аддзела беларускай амбасады ў Італіі быў накіраваны ў Фларэнцыю для аказання консульскай дапамогі затрыманым. Ён прысутнічаў у мясцовым Палацы правасуддзя, дзе ў канцы мінулага тыдня разглядаліся справы фанатаў. Быў забяспечаны пераклад.

Такога скандалу з беларускімі футбольнымі фанамі не было даўно. Перад матчам Лігі Еўропы «Фіярэнціна» (Фларэнцыя) — «Дынама» (Мінск) быў затрыманы 61 заўзятар беларускай каманды. 48 з іх забаронена наведванне футбольных матчаў на тэрыторыі Італіі на працягу пяці гадоў. Астатнім 13 пагражае больш суровае пакаранне.

Інцыдэнт адбыўся пасля таго, як беларускія фанаты, якія сабраліся ў адным з фларэнційскіх пабаў, адмовіліся сесці ў аўтобусы, якія павінны былі іх даставіць на стадыён, і паспрабавалі правесці шэсце па вуліцах горада. У выніку сутыкненняў пацярпелі шэсць карабінераў, адзін афіцэр паліцыі і некалькі фанатаў. Заўзятары кідалі ў паліцэйскіх піўныя бутэлькі і крэслы з піўбара. У іх былі адабраны дубінкі, дымавыя шашкі, маскі і плакат з кельцкім крыжом, які сярод скінхэдаў, расістаў і неанацыстаў выкарыстоўваецца для абазначэння перавагі белай расы.

Дарэчы, усяго на гульню прыбыло больш за 220 фанатаў «Дынама». Матч завяршыўся сенсацыйнай перамогай беларускага клуба — 2:1, але з-за праблем з паліцыяй адчування радасці ўсё ж такі няма.

ЧУЛІ?

# *Цэны на лекі “замарозяць”*

*Міністэрства аховы здароўя Беларусі ўвяло забарону на павышэнне цэн на лекі.*



*«Міністэрства аховы здароўя даручае прыняць вычарпальныя меры па недапушчэнні росту адпускных і рознічных цэн на лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння і іншыя спажывецкія тавары, улічваючы прынятую ўказ прэзідэнта Беларусі ад 5 снежня 2014 года №567 «Аб дадатковых мерах па абароне правоў спажыўцоў»,* — гаворыцца ў паведамленні міністэрства.

У выпадку выяўлення парушэнняў заканадаўства аб фармацэўтычнай дзейнасці і цэнаўтварэнні і завышэння цэн Міністэрства аховы здароўя будзе прымаць самыя строгія меры, аж да закрыцця гандлёвых аб’ектаў.

Ці атрымаецца адміністрацыйным рашэннем спыніць цэны? Ужо не адзін раз Міністэрства аховы здароўя абяцала-пагражала не дапусціць росту цэн на лекі. Але медпрэпараты ўсё роўна даражэлі...

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Способны ли старые кадры повести страну по новому курсу?

*Эксперты оценили реформаторский потенциал проекта стратегии развития Беларуси на 15 лет вперед.*

Министерство экономики вынесло на всеобщее обсуждение проект Национальной стратегии устойчивого социально-экономического развития Беларуси до 2030 года. Срок, выделенный на обсуждение документа, заканчивается сегодня, 12 декабря.

— Мы разрабатываем документ с таким подходом, чтобы привлечь общественное мнение к проблемам развития страны. В результате совместной работы мы должны учесть интересы общества, государства и бизнеса, найти точки соприкосновения, — заявил на конференции «Стратегия устойчивого развития — системный подход, мониторинг, оценка и управление на местном уровне» директор НИЭИ Минэкономики **Александр Червяков.**

Высокую заинтересованность в обсуждении стратегии, по оценке Александра Червякова, проявили международные и общественные организации, а вот участие населения было низким.

Люди крайне неохотно идут на сотрудничество, отказываются участвовать даже в обычном опросе, когда нужно всего лишь поставить «галочки».

В то же время, по словам руководителя Аналитического центра НИЭИ Минэкономики **Ольги Бурдыко,** «большинство обратившихся не критикуют документ, а предлагают конкретные действия по решению проблем».

Выраженные общественностью идеи касаются изменения механизмов государственного социального заказа, развития социального предпринимательства, совершенствования системы образования в интересах устойчивого развития, обеспечения диалога между государством, бизнесом и гражданским обществом, создания и регулирования деятельности общественных советов по устойчивому развитию, в которые входили бы не только представители госструктур, но и общественность.

Развитие высокотехнологичного сектора экономики с V и VI технологическими укладами, рост ВВП почти в два раза и следование принципам «зеленой» экономики — таковы планы властей на полтора десятка лет.

— Документ нацелен на реформы, — подчеркивает Ольга Бурдыко. — Мы открыто говорим о многих проблемах. Мы старались сделать его практически направленным, с конкретными мерами и предложениями.

Эксперты рассказали, чего, на их взгляд, не хватает в проекте документа.

## Новая экономика на старом фундаменте

В целом в стратегии развития достаточно хорошо проработано видение того, какой руководство видит Беларусь в 2030 году. Но непонятно, каким образом правительство планирует достичь поставленных целей.

— В проекте не говорится об инструментарии. Хотелось бы увидеть, как мы увеличим производительность труда, как мы добьемся перехода в пятый и шестой технологические уклады. Тем более не понятно, какой технологический уклад в стране сегодня, — говорит эксперт по экономике «Либерального клуба» **Антон Болточко.**

По прогнозам эксперта, реализовать проекты, которые предусмотрены стратегией развития, будет сложно.

— Мы серьезно отстаем от окружающего нас мира, поэтому все же стоит сменить стратегию и в следующие пять лет стремиться к проведению рыночных реформ по ускоренному варианту, — говорит Антон Болточко.

Реализовывать стратегию должны люди с современным взглядом, настроенные на реформы.

## Кто будет толкать страну вперед?

Новый курс развития страны потребует непривычных для белорусской власти решений и действий. Чтобы правительство справилось с такой задачей, нужны новые управленцы или обновленные структуры управления.

— В задачах стратегии представлены два компонента устойчивого развития. Это совершенствование экономической сферы и социального госуправления. Но остается нераскрытым, каким образом мы достигнем эффективного государственного управления, — считает руководитель исследований проекта BIPART (Белорусский институт реформы и трансформации публичного администрирования) **Инна Ромашевская.**

О недостатках в системе государственного менеджмента в документе даже не упоминается. Но он, по оценке независимых экспертов, требует качественных изменений.

— Пока же ситуация в стране говорит о том, что у властей нет посыла к подобным реформам, — констатирует Инна Ромашевская.

План развития страны предусматривает значительный экономический рост. Но такому подходу противоречит заявление президента о том, что он собирается издать новую директиву, предусматривающую увеличение полномочий и ответственности директоров предприятий, считает заместитель директора по развитию BIPART **Владимир Ковалкин.**

— У нас получается, с одной стороны, развитие и стимулирование либерализма, с другой — закручивание гаек. Поэтому складывается впечатление, что Минэкономики разрабатывает стратегию самостоятельно, а администрация и президент видят развитие экономики и страны по-своему, — говорит эксперт.

Эксперты отмечают, что прописанные в документе планы по развитию могли бы вывести страну на более высокий уровень и сделать привлекательной для инвесторов. Но для этого к началу реализации стратегии нужно менять подходы к управлению и взаимодействию бизнеса и государства.

— Чтобы достичь поставленных целей, нам нужны долгосрочные инвестиции, технологии. Но иностранные инвесторы, которые работают на долгосрочную перспективу, развивают инфраструктуру, создают наукоемкое и технологичное производство, не придут на наш рынок из-за больших рисков, — считает Владимир Ковалкин.

В документе, по его мнению, стоило бы предусмотреть масштабные структурные реформы и прописать пути достижения показателей.

В отличие от предыдущей стратегии до 2020 года, содержание нового документа говорит о том, что у тех, кто ее писал и принимал, есть понимание необходимости проведения в стране структурных реформ, — таково мнение **Александра Автушко-Сикорского**, аналитика Белорусского института стратегических исследований (BISS), который реализует масштабный проект «Реформ» в поддержку Европейского диалога о модернизации.

— Однако не стоит надеяться на то, что после принятия стратегии развития в стране произойдут масштабные реформы, — предупреждает эксперт.

В документе не прописаны четкие механизмы того, как будет разрабатываться развитие экономики и других сфер, какие действия будут приняты для достижения конкретных целей. Если у правительства есть планы и четкое видение того, как менять экономику и достигать высоких показателей, ему стоило бы разработать документ, разъясняющий четкие шаги развития, считает эксперт.

**Надежда КАЛИНИНА.**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Спецыялісты Незалежнай псіхіятрычнай асацыяцыі Расіі (Масква) абверглі высновы беларускіх калег адносна дзеяздольнасці жыхара Мазыра Алеся Пракапчука



***Алесь Пракапчук падчас чарговай сустрэчы з Тамарай Сяргей.***

Аўтарытэтныя эксперты, у тым ліку два кандыдаты медыцынскіх навук, зазначылі, што Алесь Пракапчук можа разумець значэнне сваіх дзеянняў і кіраваць імі, а высновы беларускіх псіхіятраў не адпавядаюць змястоўнай частцы праведзенай імі экспертызы. Больш за тое, расійскія спецыялісты падкрэслілі, што падчас прыняцця рашэння аб недзеяздольнасці Алеся Пракапчука былі парушаны ягоныя правы: грамадзяніна не апавяшчалі і не выклікалі ў суд, ён быў пазбаўлены права на абарону сваіх інтарэсаў.

Дарэчы, Незалежная псіхіятрычная асацыяцыя Расіі з’яўляецца нацыянальнай грамадскай арганізацыяй і з 1989 года ўваходзіць у Сусветную псіхіятрычную асацыяцыю.

Чаму ўвогуле ў нашага земляка ўзнікла неабходнасць звярнуцца за дапамогай да расійскіх псіхіятраў?

З 1997 года 58-гадовы Алесь Пракапчук з’яўляецца інвалідам другой групы па псіхічным захворванні. Аднак прыкметы яго ніяк не адчуваюцца пры зносінах з гэтым інтэлігентным мужчынам, бо ён гаворыць пісьменна, лагічна і вобразна, валодае глыбокімі ведамі і добрай рэакцыяй, вядзе здаровы лад жыцця. У школе Алесь выдатна вучыўся, шмат чытаў, цікавіўся гісторыяй, літаратурай і філасофіяй. Пасля заканчэння гістарычнага факультэта Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага працаваў у школе, але вымушаны быў сысці з-за сваіх незалежных крытычных поглядаў, якія не супадалі з пануючай ідэалогіяй. Затым нашаму герою давялося папрацаваць спачатку грузчыкам, а затым і ахоўнікам.

На пачатку снежня 2011 года Алесю Пракапчуку не выдалі пенсію ў сувязі з тым, што суд прызнаў яго недзеяздольным. Гэтая вестка стала поўнай нечаканасцю для мужчыны, паколькі яго ніхто не запрашаў у суд і не апавяшчаў аб прынятым судовым рашэнні. Пра судовы працэс, у парушэнне заканадаўства, нават не быў апавешчаны родны брат спадара Алеся, які зараз жыве ў Расіі. Судовая справа ў адносінах да Пракапчука была ўзбуджана па заяве мясцовага пракурора з мэтай накіравання мужчыны ў псіханеўралагічны дом-інтэрнат. Суд выканаў просьбу пракурора і пазбавіў Пракапчука дзеяздольнасці. Але “зачыніць” мужчыну ў інтэрнаце мясцовыя ўлады не змаглі, бо ў спадара Алеся з’явіўся апякун.

Рашэнне суда выглядала не толькі незаконным, але і дзіўным, паколькі Пракапчук не ўяўляе ніякай небяспекі для сябе, іншых і не знаходзіцца ў беспаможным стане. Шмат год мужчына жыў разам з маці — настаўніцай англійскай мовы, а пасля яе смерці ў 2001 годзе пражывае самастойна і цалкам сябе абслугоўвае.

Дарэчы, у заключэнні айчыннай экспертызы беларускія псіхіятры напісалі, што Пракапчук утрымлівае сваю кватэру ў здавальняючым стане, ветлівы і вольна кантактуе з медыкамі, якія яго назіралі, правільна арыентуецца ў часе, прасторы і ва ўласнай асобе, акуратна апрануцца і па сезоне, адаптаваны ў побыце, ведае памеры сваёй пенсіі, а таксама кошты на асноўныя прадукты харчавання і камунальныя паслугі, здольны да аўтаномнага існавання. Разам з тым урачы зрабілі нечаканае заключэнне пра тое, што мужчына “не можа разумець значэнне сваіх дзеянняў і кіраваць імі пры іх здзяйсненні”.

Алесь Пракапчук звязвае пільную ўвагу мясцовай пракуратуры да сваёй асобы з ягонымі скаргамі ў дзяржаўныя органы пры адстойванні сваіх правоў і правоў іншых грамадзян. Дарэчы, пра гэта ў сваім заключэнні нагадалі і беларускія псіхіятры. Аднак урачоў чамусьці не зацікавіў той факт, што ўсе звароты спадара Алеся ў дзяржаўныя структуры рознага ўзроўню мелі на мэце вырашэнне канкрэтных жыццёвых праблем.

Каментуючы сітуацыю вакол Алеся Пракапчука, юрыст Тамара Сяргей зазначыла, што лёс мужчыны сведчыць пра жорсткасць і бяздушнасць айчыннай улады. *“Стан дзяржавы і грамадства вызначаецца адносінамі да найбольш неабароненых грамадзян. А ўлады Мазыра хацелі замураваць у псіхушку Алеся Пракапчука, які ў жыцці застаўся адзін і пры гэтым не маўчыць, а адстойвае свае правы. Мужчына вымушаны быў звярнуцца да расійскіх псіхіятраў за дапамогай, таму што на Радзіме ён не змог нават з падтрымкай апекуна абараніць свае правы ва ўсіх магчымых дзяржаўных органах, у тым ліку ў Генеральнай пракуратуры, Вярхоўным судзе і Следчым камітэце”,* — падкрэсліла юрыст.

На яе меркаванне, высновы беларускіх псіхіятраў па выніках экспертызы Алеся Пракапчука з’яўляюцца прыкладам карнай псіхіятрыі.

**Марат ГАРАВЫ.**

АГУЛЬНЫ ПЛАН

## *Як Еўрапейскаму гуманітарнаму ўніверсітэту захаваць “беларускае сэрца”?*

Адыходзячы год Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт у Вільнюсе правёў пад знакам канфлікту «сярдзітых інтэлектуалаў». Рэктар звольніў некаторых выкладчыкаў і прафесараў, сенат (орган самакіравання ўніверсітэта) рэзка выступіў супраць рэктара, прыйшла пара — адміністрацыя перагледзела свае адносіны і з часткай сенатараў. Пакрыўджаныя пісалі лісты ў прэсу, у «бой» уступіла нават частка студэнтаў, разаслаўшы па СМІ свой зварот. Веер меркаванняў, серпантын папрокаў. Натуральна, за любым пунктам гледжання адчуваўся грунтоўны асабісты інтарэс. А як без яго?

Назіраць гэта было сумна, унікаць у дэталі, каб жорстка прыняць чыйсьці бок, шчыра кажучы, бесперспектыўна: у наяўнасці быў глыбокі крызіс вядомай навучальнай установы, звязаны з яе ростам і, як прызнаваліся самі ўдзельнікі канфлікту, пераасэнсаваннем свайго месца і значэння ў сацыяльнай прасторы Усходняй Еўропы.

На шчасце, універсітэт выстаяў, не разваліўся. Магчыма, па-ранейшаму з праблемамі. Але і з вопытам, з абноўленымі задачамі і ўяўленнямі аб сваім унутраным ладзе. Акадэмік Анатоль Міхайлаў сышоў з пасады рэктара і стаў прэзідэнтам Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Цяпер на пасаду рэктара, як стала вядома, прэтэндуюць палітык **Аляксандр Мілінкевіч**, гісторык **Алесь Краўцэвіч**, выканаўца абавязкаў рэктара **Дэвід Полік** (ЗША) і філосаф **Таццяна Шчытцова.** Выбіраць рэктара будзе агульны сход заснавальнікаў.

Вядомыя грамадскія дзеячы нашай краіны, сярод якіх такія персоны, як Алесь Бяляцкі, Уладзімір Арлоў, Радзім Гарэцкі, Уладзімір Колас, Івонка Сурвілла, Вінцук Вячорка, Уладзімір Някляеў, Святлана Алексіевіч і іншыя (усяго 37 чалавек), заклікалі выбраць рэктарам грамадзяніна Беларусі. Яны апублікавалі зварот, у якім гаворыцца:

«Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт — тая навучальная ўстанова, з якой беларускае грамадства заўсёды звязвала свае надзеі на падрыхтоўку нацыянальнай эліты. Сёння ЕГУ стаіць перад надзвычай важным выбарам — новага рэктара, ад якога будуць залежаць шляхі развіцця ўніверсітэта. Заклікаем захаваць «беларускае сэрца» ЕГУ. Заклікаем абраць рэктарам ЕГУ грамадзяніна Беларусі».

Выбары новага рэктара адбудуцца, хутчэй за ўсё, на пачатку 2015 года.

**Алена МАЛОЧКА.**

